БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

7 мая 1994 г.
Субота
№ 49 (13766)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года




Малюе Віктар ДУБОВІК

## На добрае слова не будзем скупыя

*З кожным годам іх застаецца ўсё менш сярод нас. З кожным годам мы страчваем бясцэнныя сведчанні відавочцаў аб суровых і грозных гадах Вялікай Айчыннай.*

*У святы не прынята гаварыць пра сумнае. Але гэта — асаблівае. Памяць аб Перамозе ў 45-м неаддзельная ад лёсаў салдат Айчыны, якія не дажылі да светлага дня. Яна неаддзельная і ад тых, хто, сустрэўшы Перамогу, пайшоў з жыцця, пакутуючы ад франтавых ран. Шчыры паклон гэтым людзям...*

*У гэтыя майскія дні (і не толькі!) мы павінны быць надзвычай чулымі да пакалення, якое прайшло вайну. Некалі рызыкоўныя хлопцы і дзяўчаты, сёння — знямоглыя старыя. Многія хварэюць, жывуць у адзіноце. Але ім не адмовіш у сіле духу, у вернасці тым ідэалам, дзеля якіх яны не шкадавалі жыцця. Падзякуем ім за тое, што коштам гэтай вялікай веры ў Перамогу права на жыццё дадзена нам...*

*9 мая будуць кветкі і віншаванні ветэранам Вялікай Айчыннай, будуць успаміны аб партызанскіх кастрах і баях на перадавой. Не забудземся на добрае слова, на шчырую думку для сваіх родных, сяброў, калег.*

*Сёння чырваназменаўцы шлюць журналістам, ветэранам вайны, што працавалі ў нашай газеце, пажаданні шчасця і доўгіх гадоў жыцця. Мы помнім і пра тых, каго ўжо няма побач з намі.*

**Фота Сяргея БРУШКО.**



## Кур'ер "ЧЗ"

### Дарагія суайчыннікі!

*Сардэчна віншую ўсіх вас з усенародным святам — Днём Перамогі!*

Асабліва шчырыя словы павагі і ўдзячнасці хочацца выказаць ветэранам Вялікай Айчыннай вайны. І тым, хто прайшоў вогненнымі франтавымі дарогамі, і тым, хто змагаўся ў партызанскіх атрадах і падполлі, і тым, хто дняваў і начаваў у заводскіх цэхах, і тым, хто пры страшэнным напружанні ўсіх сіл вырошчваў збожжа.

Светлая памяць загінуўшым на палях баёў, не дажыўшым да сёлетняга Дня Перамогі. Беларускі народ свята захоўвае ў сваім сэрцы вечную ўдзячнасць усім сынам і дочкам за гераічны подзвіг у імя жыцця.

Дарагія ветэраны! Упэўнены, што ваш вялікі жыццёвы вопыт, любоў да Бацькаўшчыны ў гэты цяжкі час будуць садзейнічаць справе кансалідацыі нашага грамадства, выхаванню падрастаючага пакалення.

Жадаю кожнаму з вас доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя, дабрабыту, шчасця і поспехаў на карысць роднай Беларусі!

**З глыбокай павагай Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

### Дарагія ветэраны Вялікай айчыннай вайны!

*9 мая народ Рэспублікі Беларусь разам з іншымі брацкімі народамі адзначае Дзень Перамогі над фашысцкай Германіяй.*

Наш суровы і цяжкі шлях да перамогі адлюстраваны ў лічбах ахвяр і страт беларускага народа. Кожны чацвёрты жыхар рэспублікі загінуў на фронце, у партызанскіх атрадах і падполлі, спалены або закатаваны ў канцлагерах.

Для нашага народа вайна — не проста гісторыя, а вечны чалавечы боль. Гэта памяць аб мінулым, аб гэтых велізарных ахвярах, аб матэрыяльных стратах. У мільёнах сем'яў не згладзілася горыч цяжкіх страт.

Мы помнім, што беларускі народ ішоў да перамогі не ў адзіноцтве, а ў цесным страі з іншымі народамі. Таму свята Перамогі — гэта агульнае непадзельнае свята беларускага, рускага, украінскага і іншых народаў, якія перамаглі карычневую напасць.

Імёны барацьбітоў з фашызмам, якія загінулі на нашай зямлі, назаўсёды застануцца ва ўдзячнай памяці беларускага народа. Без іх гераічнага жыцця, аддадзенага за нашу свабоду, не было б і перамогі.

Сёння, як ніколі раней, для кожнага з соцень тысяч ветэранаў Вялікай Айчыннай дарагая справядлівасць у ацэнцы вынікаў і ўрокаў вайны. Не толькі матэрыяльныя цяжкасці, боль ад ран і калецтваў, але і скажэнне праўды аб ёй трывожаць душу ветэранаў.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

### Акцыя памяці

*арганізавана вучнямі і настаўнікамі школы № 190 г.Мінска. Праходзіць яна ў некалькі этапаў.*

Напярэдадні свята Перамогі ў школу былі запрошаны ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, якія жывуць на тэрыторыі мікрараёнаў Уручча-1,2,3. Шчырыя словы падзякі за ўклад, унесены ў разгром ворага, пажаданні добрага здароўя і доўгіх гадоў жыцця былі сказаны ў адрас ветэранаў. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці школы падрыхтавалі для іх канцэрт. Сваё майстэрства прадэманстравалі юныя скрыпачы, балалаечнікі, цымбалісты, танцоры, вакалісты.

Тых ветэранаў, хто не змог прыйсці ў школу, дзеці павіншавалі дома і ўручылі ім кветкі.

А 9 мая вучні гэтай школы прыйдуць да магіл воінаў, да брацкіх магіл, якія знаходзяцца на тэрыторыі Уручча, ускладуць кветкі і ўшануюць памяць барацьбітоў за свабоду Радзімы.

Нізкі паклон жывым і вечная памяць загінуўшым!

**Валянціна ШПІЛЕЎСКАЯ.**

### Дзень перамогі – кожны дзень

*Дабрачынную акцыю падрыхтавала Усебеларуская асацыяцыя інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны ў падарунак сваім падапечным, якія праходзяць лячэнне ў шпіталі ў Бараўлянах.*

Напярэдадні Дня Перамогі тут было арганізавана сапраўднае свята. Прама ў бальнічныя палаты пацыентам былі дастаўлены віншавальныя трохвугольнікі, падобныя на пісьмы, што прыходзілі салдатам мінулай вайны. Аб тым часе нагадалі ім святочная радыёгазета і макет рэйхстага, на фоне якога яны сфатаграфаваліся.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Хто ў лідэрах?

*Паводле паведамленняў, якія паступаюць ад ініцыятыўных груп па збору подпісаў грамадзян у падтрымку прэтэндэнтаў на пасаду першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, пакуль што на гэтым этапе кампаніі лідзіруюць Вячаслаў Кебіч і Васіль Новікаў.*

Прэм'ер-міністр заручыўся падтрымкай каля 150 тысяч жыхароў рэспублікі, а сакратар ЦК партыі камуністаў Беларусі — звыш ста тысяч сваіх прыхільнікаў. Трэці радок у неафіцыйнай "табліцы папулярнасці" займае народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. За яго кандыдатуру ў падпісныя лісты ўнеслі свае прозвішчы больш як 90 тысяч грамадзян.

Паступова павышаюцца рэйтынгавыя паказчыкі і іншых прэтэндэнтаў. Следам за лідзіруючай тройкай ідуць старшыня Маладзечанскага гарадскога Савета дэпутатаў Генадзь Карпенка, генеральны дырэктар Міжнароднага інстытута менеджмента Віктар Цярэшчанка і дырэктар Цэнтра палітычных і эканамічных даследаванняў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, экс-спікер парламента Станіслаў Шушкевіч.

Тым часам кандыдаты на прэзідэнцкае крэсла працягваюць сустрэчы з выбаршчыкамі. Так, гэтымі днямі Станіслаў Шушкевіч наведаў Баранавічы, Аляксандр Лукашэнка — Магілёў, прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін выступіў у Бабруйску.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### Велікодная міласэрнасць

*Да 10 мая працягнецца на Віцебшчыне тыдзень міласэрнасці. Мэта гэтай дабрачыннай акцыі — аказаць рэальную дапамогу састарэлым людзям.*

Дарэчы, Фонду міласэрнасці і здароўя на Віцебшчыне спаўняецца пяць гадоў. Не так лёгка жыць гэтай самакіруемай арганізацыі. З дзяржаўнага бюджэту яна не атрымлівае ні капейкі. Летась спынілася паступленне сродкаў з дабрачынных ахвяраванняў ад прадпрыемстваў і жыхароў вобласці. Застаецца спадзявацца на камерцыйныя структуры.

### Ветэранаў меншае. А праблем большае

*Канферэнцыя ветэранаў вайны і працы адбылася ў Бешанковічах. Даклад старшыні раённага таварыства І.А.Корбана высвеціў шэраг праблем, якія падпільноўваюць на кожным кроку пажылых людзей.*

У раёне дрэнныя справы з забеспячэннем удзельнікаў вайны жыллём. У райцэнтры адкрыты магазін "Ветэран", але асартымент яго вельмі небагаты. Шмат прэтэнзій у ветэранаў да медыцынскага абслугоўвання, да вузла сувязі.

**Уладзімір МІХНО.**

### Курсы валют на 6 мая:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 15850 | 16350 | 9650 | 9860 |
| "Пошук" | 15700 | 16250 | 9300 | 9600 |
| "Прыор" | 15500 | 16000 | 9350 | 9650 |

ВЫБАРЧЫ МАРАФОН

## Рубінавыя агні?

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

Нібыта шчыгрынавая скура, растае час, адпушчаны ініцыятыўным групам для збору подпісаў у падтрымку прэтэндэнтаў. Яго адлік, як вядома, працягнецца да 14 мая. Але і цяпер прадстаўнікі то адной, то другой кандыдацкай каманды рэгулярна інфармуюць прэсу і грамадскасць аб дасягнутым уражальным поспеху. Здаецца, многія з абвешчаных змагароў за пасаду здолеюць усё ж пераскочыць майскі бар'ер. А там — справа за "вердыктам" Цэнтрвыбаркама, які і вырашыць далейшы лёс кожнага з палітыкаў паасобку.

Аднак цагліны слоўнага золата ў пакуль прывідны падмурак магчымага поспеху закладваліся і закладваюцца, бадай, з моманту прыняцця вядомага парламенцкага заканадаўчага акта. "Муляры" прэзідэнцкага закліку працуюць штодня. І тут нельга не заўважыць, што сапраўды царскі дарунак паднеслі ўсім прэм'ер і яго акружэнне, якія "паставілі" на Маскву. Адбудзецца альбо не адбудзецца рэальнае зліццё грашовых сістэм Расіі і Беларусі залежыць палітычная будучыня В.Кебіча. Зразумела, калі скарасны ліфт на прэзідэнцтва не падымецца да "нябёсаў славы" раней, чым высакародныя намеры стануць рэчаіснасцю.

Пакуль адны падаюць пагадненне аб фінансавым аб'яднанні, як нейкі скрутак, які зваліўся ледзь не са скрыні Пандоры на галовы беларусаў, а другія не бачаць за літарамі і радкамі нічога рэальнага, па ўсёй верагоднасці, у Крамлі ідзе падспудны аналітычны разбор беларускіх прыярытэтаў. Падумаць ёсць над чым. У першую чаргу расійскаму прэзідэнту.

Сапраўды, хто на Беларусі "лабачыць неба ў алмазах" — важкае пытанне. Ельцын, Краўчук, Шушкевіч — трыумвірат, з'яднаны Віскулямі. Украіна незалежнай птушкай ляціць да прэзідэнцкіх выбараў, Станіслаў Станіслававіч (часова?) адышоў ад дзяржаўных спраў, але і яго прозвішча значыцца ў спісе прэтэндэнтаў. Прычым, відавочна, што менавіта на гэтую фігуру зрабілі асноўную стаўку дэмакраты. Ці захоча "пераможца Гарбачова" застацца ў гордай адзіноце?

Няма сумненняў у тым, што "беларускі шлях" праходзіць праз сэрца Расіі (хай і ў прасторы сімволікі), як расійскія шляхі-дарогі на Захад — праз Беларусь. Гістарычны альянс славянскіх рэспублік нікуды не знік за тры-чатыры гады, ды й знікнуць не мог, бо ён вечны. Але як пойдзе працэс новай інтэграцыі, з якім лідэрам лягчэй яго весці? На першы погляд, цяперашняе беларускае ўрадавае кіраўніцтва, літаральна, знаходка для Расіі, страціўшай частку камунікацыйнага "заходняга калідора". У той жа час Масква пад штандарамі дэмакратыі — не ўзорны камуністычны горад-карціна ў застойнай чырвонай раме. І ўладараць тут людзі новай хвалі, многія з якіх хай і з партыйных шэрагаў, але ж пайшоўшыя азірацца позна.

Думаецца, Расія робіць выбар, і ён можа адбіцца ў люстэрку беларускай явы. Зубчастыя сцены старажытнага Крамля, якія "раніца фарбуе пяшчотным колерам", ніколі і не знікалі з нашага далягляду. Толькі здаралася, што маскоўскія адлюстраванні паяўляліся ў Мінску са спазненнем. І ў меншых памерах.

Так ці інакш, адна з палітычных эліт на Беларусі свае пазіцыі акрэсліла. Такое вызначэнне прыярытэтаў можа стаць для яе і фатальным. Але чаму не дапусціць, што тут пераважыў дзяржаўны роздум? Апынуўшыся раптам у акіяне незалежнасці, страціўшы арыенціры, рэспубліка рызыкуе сустрэцца з Левіафанам. Дык чаму не зарыентавацца на рубінавыя агні крамлёўскіх вежаў?

## Паважаныя ветэраны!

Саюз моладзі Беларусі віншуе вас са святам — Днём Перамогі.

Сёння вам вельмі нялёгка: бяруць сваё гады, хваробы, а ўвагі да вас усё менш. Побач жывуць і такія людзі, якія спрабуюць перагледзець гісторыю, прынізіць ваш подзвіг у Вялікай Айчыннай вайне. Але ведайце, што члены нашага 150-тысячнага Саюза, як і большасць беларускага народа, з павагай адносяцца да ідэалаў, за якія вы ваявалі.

Жадаем вам моцнага здароўя і як мага больш заставацца ў страі.

**БЮРО ЦК СМБ.**

Падарожныя, мы ідзем па гэтай зямлі.

Кожны сваёй пуцінаю,

несучы ў душы сьвятло надзей і памяць.

Памяць пра тых, хто адышоў ад нас назаўжды.

Усё праходзіць.

Адно застаецца нязьменным — Вечнае неба...

Радаўніца!

Хай будуць сьветлымі нашы пачуцьці.




## "Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "Еўраньюс"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




*Дзяжурны па выпуску — Я.ЯСЭПКІН.*

### "Мафіёзі–мастацтвазнаўцы"

*З Рыма перадаюць: грошы мафіі могуць садзейнічаць павелічэнню цэн на творы мастацтва і антыкварыят.*

Прадстаўнік італьянскай паліцыі паведаміў, што дзялкі мафіі ўсё часцей "адмываюць" грошы, атрыманыя ад гандлю наркотыкамі і махлярства на мастацкіх аукцыёнах. Укладванне грошай у творы мастацтва лічыцца адным з самых надзейных.

### Бізнес па–суседску

*З чэшскага горада Наход у польскую Кудову–Здруй цераз граніцу цячэ ручай піва, яек і гарэлкі. Прафесіянал–чаўнок робіць тут да 350 рэйсаў за дзень.*

"Работа" пачынаецца ў сем гадзін раніцы (выстройваецца чарга ў сотні людзей), а заканчваецца позна вечарам. Займаюцца ёю палякі. На польскім баку тавар пагружаюць у машыны, і ён "разыходзіцца" па ўсёй краіне. Чэшскія тавары каштуюць танней за польскія ў некалькі разоў.

### У Тэгерана "доўгія рукі"

*Англійскія сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што Іран падтрымлівае ірландскіх тэрарыстаў.*

Як стала вядома, іранскія спецслужбы наймалі баевікоў з ірландскай падпольнай групоўкі ІРА для расправы над крытыкамі тэгеранскага рэжыму. Расплочваюцца з тэрарыстамі як грашыма, так і зброяй, у тым ліку ракетамі і ўзрыўчаткай.

### І дзеці – тавар?

*З Грэцыі высланы чатырнаццаць балгарскіх грамадзян.*

Усе яны абвінавачваюцца ў спробах прадаць уласных дзяцей. У Грэцыі, як сцвярджае паліцыя, наладжана цэлая сістэма падпольнага ўвозу малых дзяцей з суседніх Албаніі і Балгарыі.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

# СА СВЯТАМ ПЕРАМОГІ!

Фота А.КЛЕШЧУКА.

## Знайсці сябе на полі пад Дуброўнам...

За рысай той
маўкліва,
пуста,
І на дарогах
крыжавых
Узводзім
помнікі
і бюсты
Мы не для іх,
а для жывых.
І для дзяцей,
каб не зблудзілі
У гушчары
нікчэмных дат.
Каб памяць
песні нарадзіла
Аб
неўміручасці
салдат.

Пімен ПАНЧАНКА.



Орша... Першае, не зусім прыемнае ўражанне. Дай Бог, калі памыляюся. Вялікі, але ўсё ж няўтульны нейкі раённы цэнтр, хаця і даволі спагляднае ў яго геаграфічнае становішча — чыгунка, Маскоўская магістраль, Днепр. Прырода Оршу не пакрыўдзіла, а вось з архітэктурай горш. Нават сам цэнтр нейкі прыземлены, някідкі.

У Оршы я ўпершыню, усё неяк не выбраўся ў той бок, хаця жыву, можна сказаць, на Аршанскай дарозе, кіламетраў за сто. Ды прымусіў мяне сюды завітаць адзін цікавы, неардынарны, можна сказаць, фанатычны чалавек. Увогуле, фанатаў я паважаю.

Хутка знайшоў гарана, куды і хацеў папасці. А вось з загадчыкам аддзела школьнага краязнаўства Рыгорам Сцяпанавічам Шараем, каб сустрэцца, давялося ехаць аж на ўскраіну горада, у сто дзесятае прафтэхвучылішча. Там ён вось ужо шэсць гадоў кіруе маладзёжным пошукавым клубам "Русічы". Там, у вучылішчы, разам з калегамі стварыў музей гісторыі вызвалення Оршы. У музеі і сустрэліся.

На вайне, як на вайне. Сціплы, затое вельмі арыгінальны свяцільнік, зроблены з... прабітае кулямі салдацкае каскі, нясмела кідае святло на невялікі ўтульны пакойчык. Утульнасць, калі гэтае слова тут увогуле да месца, надаюць пакойчыку... маскіровачныя сеткі, нібы калыскі, падвешаныя пад столлю. І добра, бо надта ж, прызнацца, не дамашні інтэр'ер пакойчыка. Чаго тут толькі не ўбачыш! Вунь той кулон, зроблены са стрэлянай гільзы — бадай, самы дарагі ўспамін для Рыгора Сцяпанавіча. Дарагі, бо то першая знаходка "Русічаў". Калі адкрылі гільзу, убачылі паперку. Паспелі прачытаць толькі некалькі слоў, як раптам паперка рассыпалася проста на руках. Затое якія словы прачыталі!

"г.Юравец, Іванаўскі прамысловы комплекс. Лучкоў Міхаіл Сцяпанавіч, 1905 г.нараджэння. Жонка Лучкова Ганна П.".

Так было ўстаноўлена "Русічамі" першае з імён загінуўшых на вайне салдатаў. Колькі іх, невядомых, тых, якія лічыліся без вестак прапаўшымі, вернуць з небыцця звычайныя аршанскія хлопцы з будаўнічага вучылішча. Толькі для Дубровенскай раённай кнігі "Памяць" яны дадуць больш як дзве з паловай тысячы новых імён, установяць поўнасцю экіпаж загінуўшага самалёта лейтэнанта Цыбульскага, дапамогуць вярнуць гістарычную справядлівасць у дачыненні да капітана Сапрыкіна, які пасля фашысцкага палону быў пазбаўлены ўсіх баявых узнагарод. "Русічы" звяжуцца з архівамі гарадоў Падольска, Дуброўна, Віцебска, Мінска, наладзяць сувязі з Германіяй. Ды ці мала. Але назаўсёды ў іхнім музеі, як самая каштоўная рэліквія, будзе захоўвацца гільза радавога Лучкова і падзячнае пісьмо ад яго сына.

Чаго толькі няма ў гэтым невялікім паўзмрочным пакойчыку: агнястрэльная зброя на любы густ і выбар, патроны, гільзы ад снарадаў і мін, рознага нашага і нямецкага паходнага посуду — біклажкі, лыжкі, відэльцы, бутэлькі. Ёсць нават торфабрыкет, які немцы вазілі сюды з Германіі, ёсць бронекамізэлькі, сапёрныя лапаткі. Таго не ўбачыш у звычайным гарадскім музеі. Гэтых экспанатаў хапіла б на некалькі музеяў, а іх з кожным годам усё прыбывае і прыбывае. Плывуць сюды маўклівыя жалезныя сведкі апошняй вайны з Дубровенскага поля. Там дзевяць месяцаў стаяў фронт, і зямля аж да гэтага часу стогне ад цяжкае пакутлівае начынкі. Туды штогод накіроўваецца экспедыцыя "Русічаў" улетку, у вольны ад вучобы час, ці нават увосень. Хлопцы (бывае, і дзяўчаты) разбіваюць там лагер, жывуць у палатках і кожны дзень выходзяць на працу. Астанкі, знойдзеныя ў зямлі, на месцы баёў, яны беражліва складваюць у спецыяльныя мяшкі, выносяць, а потым... потым, як ва ўсіх хрысціян, зноўку аддаюць зямлі. Хаваюць урачыста, пад музыку на мемарыяльным комплексе "Рыленкі". Сюды прыязджаюць родзічы загінуўшых. Удзячнасць, слёзы, слава.

Рыгор Сцяпанавіч Шарай, несумненна, таленавіты педагог-практык, здольны арганізатар, знайшоў вельмі арыгінальную, хаця, можа, і не зусім папулярную зараз, бо надта ж многа за ёю стаіць чарнавой няўдзячнай работы, форму выхавання падлеткаў. Дарэчы, у "Русічах" ёсць і "цяжкія" падлеткі. І ў "баявой абстаноўцы" яны не проста аказваюцца роўнымі сярод роўных, а часам бываюць нават вышэй, больш надзейнымі за астатніх, балазе кемнасці, мужнасці і вынослівасці "цяжкім" не пазычаць.

Скончыцца вытворчая практыка, і заміж таго, каб раз'ехацца на канікулы, "Русічы" апрануць цяжкія камбінезоны, узброяцца рыдлёўкамі і паедуць... на вайну. Паедуць, бо ўсе яны крыху фанаты. І няхай сабе па начах будуць сніцца халодны жвір, белыя косці, іржавае страшнае жалеза. Няхай, бо хто, калі не яны?.. Гэта трэба не мёртвым...

**Уладзімір МІХНО.**



## БІЗНЕС-КЛАС

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

### "ТАСІС" абгрунтавалася на Беларусі

На базе Беларускага фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў пачалі працаваць галоўны саветнік па праграме "ТАСІС" Генрых Цімерман і эксперт Уда Шыдэль. Мэта іх доўгачасовага візіту ў Беларусь — стварэнне інфармацыйнага цэнтра бізнес-камунікацый, устанаўленне кантактаў з беларускімі прадпрымальнікамі малога і сярэдняга бізнесу, вывучэнне магчымасцей выхаду нашай прадукцыі на сусветны рынак.

Еўрапейскі Саюз, у рамках якога ажыццяўляецца вызначаная праграма, плануе стварыць падобныя цэнтры таксама ў краінах СНД.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### Дзе шукаць выйсце з крызісу?

Прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў, доктар эканамічных навук прафесар Макс Куняўскі лічыць прыватызацыю і прадпрымальніцтва адным з галоўных сродкаў развіцця эканомікі Рэспублікі Беларусь. Ён заявіў, што прыватызацыя будзе садзейнічаць павышэнню эфектыўнасці вытворчасці, паляпшэнню жыцця шырокіх мас насельніцтва рэспублікі. Кожны грамадзянін зможа стаць гаспадаром, уласнікам, таму эканоміка атрымае дадатковы штуршок да развіцця.

Усе жыхары нашай рэспублікі атрымаюць ваўчары — імянныя прыватызацыйныя чэкі. Іх колькасць будзе залежаць ад працоўнага стажу, саставу сям'і. Тыя, хто па стану на 1 студзеня 1991 года мелі ўклады ў ашчадных банках, атрымаюць дадатковыя чэкі. Ільготы прадугледжаны для інвалідаў 1 і 2 груп, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, рэабілітаваных у выніку незаконных рэпрэсій.

Працоўныя калектывы і асобныя грамадзяне атрымаюць магчымасць выкупіць прадпрыемствы і ўстановы, на якіх яны працуюць, ва ўласнасць.

Макс Куняўскі даў высокую ацэнку "Праграме развіцця прадпрымальніцтва". Аднак прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў лічыць, што неабходна стварыць рынак зямлі, зямельныя банкі, даць "зялёнае святло" фермерскаму руху.

Незалежна ад таго, ці будзе заключаны валютны саюз з Расіяй, беларускія прадпрымальнікі і арандатары маюць намер развіваць сяброўскія адносіны з рыначнымі структурамі краін СНД.

У рэспубліцы — напружаная грамадска-палітычная абстаноўка, выкліканая нежаданнем пэўных сіл рэфарміраваць эканоміку. Таму трэба рэзка паскорыць тэмпы прыватызацыі, якую Куняўскі ахарактарызаваў так: "Ваўчарызацыя плюс выкуп уласнасці працоўнымі калектывамі і асобнымі грамадзянамі".

Зараз усё большае распаўсюджанне атрымлівае тэорыя сацыяльнага партнёрства прадпрымальнікаў, наёмных работнікаў і ўрада. Прафсаюзы, Канфедэрацыя прамыславікоў і прадпрымальнікаў, урад рэспублікі заключылі генеральнае пагадненне аб сумеснай дзейнасці па папярэджанню канфліктных сітуацый.

Нам патрэбны не стачкі і забастоўкі, а мэтанакіраваная работа ўсёй народнай гаспадаркі. Сістэма сацыяльнага партнёрства (трыпартызму), на думку кандыдата тэхнічных навук, члена Пагаджальнага савета рэспублікі па працоўных і сацыяльных пытаннях Юрыя Весялова, — шлях да выратавання ад грамадзянскай вайны і нацыянальнай катастрофы.

**Валерый КАЛЕСНІКАЎ.**

## Дарагія ветэраны Вялікай Айчыннай вайны!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Усё менш сярод нас яе ўдзельнікаў і відавочцаў. Таму жывыя не павінны дапусціць, каб памяць аб вайне стала прадметам спекуляцый, скажэнняў і зневажанняў. У рэспубліцы будуць устаноўлены імёны ўсіх загінуўшых, а іх подзвіг — увекавечаны.

Свяшчэнны доўг і наш абавязак думаць аб жывых героях — абаронцах Айчыны.

Нягледзячы на цяжкія эканамічныя ўмовы, Савет Міністраў, абапіраючыся на падтрымку ўсяго народа рэспублікі, і ў далейшым будзе рабіць усё магчымае па аказанню ветэранам матэрыяльнай і маральнай падтрымкі ў складаны перыяд нашай гісторыі.

Паважаныя суайчыннікі!

У гэты дзень мы ўшаноўваем мужнасць, адвагу і гераізм кожнага, хто са зброяй у руках да канца выканаў свой абавязак, зрабіў усё, каб прыйшла пераможная вясна. Бязмежныя мая ўдзячнасць і павага да герояў-франтавікоў, партызан і падпольшчыкаў.

Небывалую стойкасць і працоўную доблесць у ліхую часіну праявілі працаўнікі тылу. Іх жыццё і праца ў гады вайны былі падпарадкаваны аднаму святому абавязку:"Усё для фронта, усё для перамогі!".

Упэўнены, што на слаўных справах ветэранаў вайны і працаўнікоў тылу будуць выхоўвацца новыя пакаленні, вучыцца мужнасці, адвазе і стойкасці.

Віншую вас з Днём Перамогі, дарагія таварышы! Слава ўсенароднаму подзвігу ў імя Радзімы, у імя жыцця на зямлі! Моцнага вам здароўя, шчасця, дабрабыту і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні!

З павагай

**В.Кебіч,
Старшыня
Савета Міністраў
Рэспублікі Беларусь.**

ПЕРАЖЫТАЕ

## У атаку ішла пяхота

Складаны і цяжкі быў шлях мінчаніна Вячаслава Іосіфавіча Бурачэўскага па дарогах Вялікай Айчыннай вайны. Пачаўся ён у сярэдзіне лета 1941 года ў Кінгісепскім умацаваным раёне Ленінградскай вобласці ў адным з кулямётных дотаў.

У раёне іх абароны было неспакойна. Ад раненых, якія накіроўваліся ў бок Ленінграда, стала вядома, што гітлераўцы вось-вось будуць і тут.

Раніцай 14 жніўня 1941 года радавы Укропаў, які вёў назіранне праз стэрэатрубу, далажыў Бурачэўскаму:

— Таварыш камандзір! Бачу трох матацыклістаў на дарозе з Нарвы. Відаць, немцы.

Сяржант Бурачэўскі паглядзеў у акуляр стэрэатрубы і сказаў:

— Так. Гэта гітлераўцы, але агню па іх не адкрываць. Гэта разведка. Прапусцім яе. Сустрэнем агнём асноўную калону, якая павінна вось-вось з'явіцца следам за разведкай. Падрыхтавацца!

Гітлераўцы ехалі павольна, уважліва аглядаючы мясцовасць. Вось яны спыніліся, пра штосьці гаварылі, пасля чаго адзін матацыкліст развярнуўся і паехаў назад. Двое іншых засталіся на месцы.

Маўчаў дот Бурачэўскага. Маўчалі і два суседнія, злева і справа, двухамбразурныя доты.

Сяржант Бурачэўскі разлічыў правільна. У хуткім часе з боку Нарвы на дарозе паказалася вялікая калона аўтамашын з гітлераўцамі ў кузавах. Наперадзе калоны — два матацыклісты. Доты маўчалі. Калі калона гітлераўцаў увайшла ў сектар абстрэлу цэнтральнай амбразуры сяржант Бурачэўскі аддаў загад:

— Па фашыстах, доўгімі, агонь!

Тры "максімы" адкрылі агонь адначасова. Разам з імі адкрылі агонь і кулямёты суседніх дотаў. Іх смяротны свінцовы ўраган накрыў усю калону. Вось успыхнула адна аўтамашына, за ёй другая, трэцяя. Фашысты, якія ўцалелі ад першых чэргаў, вывальваліся з грузавікоў, але і на зямлі ім не было паратунку. Хутка пачалі рвацца бензінавыя бакі аўтамашын і гітлераўцаў аблівала палаючым бензінам. Акупанты, ашалеўшы ад страху і агню, мітусіліся на дарозе, а кулямёты касілі іх бязлітасна.

Першы бой працягваўся не больш чым дзесяць-пятнаццаць мінут. Уся гітлераўская калона аўтамашын гарэла. Нашы кулямётчыкі знішчылі звыш батальёна варожай пяхоты. Два дні фашысты не адважваліся праравацца па дарозе на Ленінград. Яны абстрэльвалі ўсю мясцовасць артылерыйскім і мінамётным агнём, але ён не быў прыцэльным, вёўся па плошчах, без карэкціроўкі. Воінам дотаў ён шкоды не прыносіў.

17 жніўня з усходам сонца агнявы шквал артылерыйскіх снарадаў і мін абрушыўся на доты. Мінут праз дваццаць у атаку пайшла пяхота. Першая атака была адбіта параўнальна лёгка. Другая — цяжэй, таму што ад асколкаў снарада, які разарваўся ў левай амбразуры дота, кулямёт выйшаў са строю. Немцы адчулі, што агонь паслабеў і ўзмацнілі націск менавіта з левага фланга. І зноў выручыў кулямёт Паўла Пушкіна, які агнём з цэнтральнай амбразуры прымусіў гітлераўцаў зноў залегчы, а затым і адысці назад.

Пасля баёў у Кінгісепскім умацаваным раёне і ранення Вячаслаў Бурачэўскі аказаўся ў ваенным шпіталі, дзе лячыўся да снежня, а затым трапіў на ахову "Дарогі жыцця" на Ладажскім возеры. Абараняў яе ад гітлераўцаў, пакуль зноў не атрымаў раненне ў руку. Зноў шпіталь, пасля якога запасны полк у горадзе Мажга ва Удмурціі, скончыў паскораныя камандзірскія курсы і ў званні малодшы лейтэнант прыбыў у Ерахавецкія лагеры, паблізу горада Мурам у школу па падрыхтоўцы спецгруп для работы ў тыле. Ужо ў ліпені група перайшла лінію фронта і аказалася ў раёне дзеянняў партызанскай брыгады "Дубава".

**Мікалай АКАЛОВІЧ,
старшыня прэс-групы
Рэспубліканскага
савета ветэранаў.**

## Хроніка "Чырвонай змены"

Майскія нумары "Чырвонай змены", якія ўбачылі свет у 1945 годзе, па-святочнаму ўзнёслыя. Вызваленая ўжо ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Беларусь радавалася Перамозе. Старонкі маладзёжнай газеты стракацяць паведамленнямі аб шматтысячных мітынгах, што прайшлі ў гарадах і вёсках рэспублікі. У гэтыя ж дні з'яўляюцца апошнія аператыўныя зводкі з фронта.

"Войскі 3-га Беларускага фронта закончылі прыём капітуляваўшых злучэнняў і часцей нямецкіх войск у раёне вусця ракі Віслы і рабілі прачэсванне занятай тэрыторыі, ачышчаючы яе ад застаўшыхся дробных груп і асобных салдат праціўніка. Усяго прынята больш як 20 000 палонных нямецкіх салдат і афіцэраў і 3 генералы. Улічаны наступныя трафеі: самалётаў – 50, танкаў і самаходных гармат – 20, палявых гармат – 300, мінамётаў – 134, кулямётаў – 2500, вінтовак і аўтаматаў – 15 000, бронетранспарцёраў – 53, аўтамашын – 5912, радыёстанцый – 30, коней – 1 570".

"Войскі 2-га Беларускага фронта ў раёне вусця ракі Віслы на ўсход ад Данцыга і на касе Путцыгер-Нерунг на паўночны ўсход ад Гдыні працягвалі прыём капітуляваўшых нямецкіх войск. З 9-га па 11-га мая здалося ў палон 35 000 нямецкіх салдат і афіцэраў і 7 генералаў. У ліку палонных генералаў, апрача раней аб'яўленых,– камандзір 12-й авіяпалковай дывізіі генерал-лейтэнант Шліпер. Апрача таго, узята ў палон на востраве Борнхольм 12 000 чалавек на чале з начальнікам гарнізона генерал-лейтэнантам Вутман, усяго па фронце – 47 000 чалавек. Нашы войскі занялі востраў Борнхольм".

"Усяго з 9 па 11 мая на ўсіх франтах узята ў палон больш чым 560 000 нямецкіх салдат і афіцэраў і 45 генералаў".

• Берлін. Звергнуты "арол".
• Салют Перамогі.

Здымкі з фотатэкі БЕЛІНФАРМА.

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

**"Еўраньюс"**



### 52 гульні і 2 фаварыты

*У ЗША пачаўся продаж апошніх разавых білетаў на матчы XV чэмпіянату свету па футболу. Іх засталося ўсяго 450 тысяч з 3,6 мільёна на 52 матчы футбольнага свята, якое пройдзе з 17 чэрвеня па 17 ліпеня 1994 года ў дзевяці гарадах.*

Найбольшым попытам карыстаюцца білеты на гульні каманд Італіі і Аргенціны.

### Катастрофа ў Кеніі

*272 чалавекі загінулі ў выніку катастрофы парома ў Кеніі.*

Трагедыя здарылася непадалёку ад порта Момбаса на поўдні краіны.

**"Уорлднэт"**

### Дарагое свавольства

*11-гадовы Фрыц Дэлінг і яго 8-гадовая сястра Фрыда праводзілі канікулы на хутары дзядулі на беразе ракі Ізара (Германія). Фрыц знайшоў невялікую, але вельмі цяжкую бутэльку і ...кінуў яе, як ручную гранату.*

Бутэлька ўдарылася аб дрэва і разбілася, на зямлю пырснулі металічныя кроплі ртуці. Бацькі хлопчыка надоўга запомняць гэтае свавольства. За паслугі эксперта, дэзактывацыю глебы і судовыя выдаткі ім прыйшлося заплаціць каля 6 тысяч нямецкіх марак.

### Сенат і галубы

*Французскія галубятнікі адзначаюць урачыстасць: сенат — вышэйшая палата парламента краіны — адобрыў рашэнне змяніць статус іх любімых птушак.*

Раней быў сурова забаронены як увоз галубоў у краіну, так і вываз. Усе галубятні знаходзіліся на ўліку міністэрства ўнутраных спраў, кожныя тры месяцы прэфектуры дэпартаментаў былі абавязаны правяраць усіх галубятнікаў і іх падапечных. Такое практыкавалася з-за паштовых" здольнасцей птушак. Цяпер, калі сродкі тэлекамунікацый дасягнулі вялікіх вышынь, абмежаванні з крылатых сувязных здымаюцца.

### Міжнародны крэдыт

*Міжнародны банк рэканструкцыі і развіцця афіцыйна аб'явіў аб выдзяленні 1,2 мільёна даляраў палесцінцам.*

Гэтыя сродкі пойдуць на паляпшэнне жыцця і стымуляванне інвестыцый на тэрыторыях, якія передаюцца Ізраілем пад палесцінскае самакіраванне.

**"Суперчэннэл"**

### "Ролінгі" коцяцца па свеце

*Славуты рок-гурт "Ролінг Стоўнз" аб'явіў у Нью-Йорку аб сваім новым сусветным турнэ.*

"І яно не будзе апошнім", — паабяцаў кіраўнік групы Мік Джэгер. Разам са сваімі таварышамі — музыкантамі Джэгер прыплыў у Нью-Йорк на яхце, якая калісьці належала прэзідэнту Джону Кенэдзі.

### На два ўдары меней

*Урад Сінгапура пайшоў насустрач просьбе прэзідэнта ЗША Біла Клінтана аб змякчэнні пакарання амерыканскаму юнаку Майклу Фэю, якога сінгапурскі суд прыгаварыў да 4 гадоў турмы.*

Акрамя турэмнага зняволення і буйнога грашовага штрафу, Фэю пагражала і такое пакаранне — шэсць удараў ратанавай палкай. Урад рэкамендаваў прэзідэнту Рэспублікі Сінгапур распарадзіцца аб скарачэнні колькасці ўдараў з шасці да чатырох.

**"TV-5"**

### "Абмежаванні" для паслоў

*Цяпер паслам Свазіленда, якія знаходзяцца на перадавых рубяжах дыпламатычнага фронта за мяжой, дазваляецца браць з сабой у заморскія краіны толькі адну жонку.*

Аб гэтым важным рашэнні аб'явіў у сталіцы маленькага каралеўства на поўдні Афрыкі Мбабане міністр замежных спраў прынц Саламон Аламіні ў адказ на адпаведны запыт у сенаце. Паводле ліберальных законаў Свазіленда, мужчына мае права мець столькі жонак, колькі яму дазволіць ...яго кашалёк.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## ТЫДЗЕНЬ ПА ГАРАСКОПУ

### 9–15 мая

Уважліва сачыце за навінамі, якія атрымаеце ў нядзелю.

**ЦЯЛЕЦ**

Пастарайцеся ажыццявіць усё, што плануеце ў першыя дні тыдня. Магчымы фінансавы поспех. Звярніце ўвагу на сваіх родных.

У сераду кантралюйце сітуацыю ў інтымным жыцці.

Не выключана цікавае падарожжа ў выхадныя дні. Вырашацца праблемы ў каханні.

**БЛІЗНЯТЫ**

Пазбягайце сварак з блізкімі ў панядзелак. Адкладзіце ўсе віды фінансавых аперацый.

Не прымайце паспешлівых рашэнняў на працы ў чацвер. Будзьце ўважлівымі ў дарозе.

Спрыяльны час для кахання ў нядзелю.

**РАК**

На пачатку тыдня ўстрымайцеся ад ужывання алкаголю. У асабістым жыцці будзьце велікадушнымі. Спрыяльны час для любых пачынанняў. Але ў бізнесе вам лепш перачакаць.

У чацвер займіцеся спортам. Магчымы нечаканы фінансавы паварот. Стрымлівайце свае эмоцыі.

Магчыма новае знаёмства ў канцы тыдня.

**ЛЕЎ**

Звярніце ўвагу на сваё здароўе ў панядзелак. Пастарайцеся больш дыхаць свежым паветрам. З'явіцца шанц на ўдачу ў матэрыяльнай сферы. Высокі творчы патэнцыял.

Цудоўны час для інтымных адносін у пятніцу. Не верце ніякім плёткам.

У нядзелю наведайце царкву. Не адказвайце несправядлівасцю на несправядлівасць.

**ДЗЕВА**

Будзьце асцярожнымі ў фінансавай сферы ў аўторак. Пазбягайце сур'ёзных захворванняў.

У чацвер больш часу прысвяціце сваім блізкім.

Вам прыйдзецца вырашаць нейкую грашовую праблему ў суботу.

Займіцеся сваім асабістым жыццём.

**ШАЛІ**

Можаце дамагчыся жаданага выніку нягледзячы ні на што на пачатку тыдня. Пастарайцеся зразумець свайго каханага.

У чацвер і пятніцу не сварыцеся з супрацоўнікамі і роднымі.

**СКАРПІЁН**

У першыя дні тыдня стабілізуюцца сардэчныя і фінансавыя справы. Не злоўжывайце алкаголем.

Цудоўны час для кахання ў сераду. Пазбягайце ўсялякіх плётак.

Пастарайцеся не рызыкаваць у фінансавай сферы ў суботу. Займіцеся гаспадарчымі справамі.

**СТРАЛЕЦ**

Звярніце ўвагу на сваё здароўе ў панядзелак. Пастарайцеся ні з кім не канфліктаваць.

Поспех у каханні вас чакае ў чацвер.

Нядзелю правядзіце як мага спакайней.

**КАЗЯРОГ**

Праяўляйце больш характару і настойлівасці ва ўсім на пачатку тыдня. Сур'ёзна абдумвайце кожны свой крок на працы. Беражыце сэрца ад залішніх хваляванняў.

Магчымы новыя цікавыя знаёмствы ў сераду. Поспех у сардэчных справах.

У выхадныя вас чакае фінансавая ўдача і цудоўнае падарожжа.

**ВАДАЛЕЙ**

Будзьце ўважлівымі ў дарозе ў панядзелак. Атрымаеце нейкія цікавыя навіны. Магчымы вялікі матэрыяльны прыбытак. Не давярайце нікому сваіх матэрыяльных адносін.

У чацвер пастарайцеся не канфліктаваць з афіцыйнымі інстанцыямі. Нічога сур'ёзнага не плануйце.

Звярніце ўвагу на сваё здароўе ў суботу. Наведайце сваіх сяброў.

**РЫБЫ**

На пачатку тыдня стрымлівайце свае эмоцыі ў сям'і.

Поспех у фінансавай сферы і ў каханні магчымы ў сераду.

У выхадныя займіцеся паляпшэннем свайго быту. Пажадана выехаць за горад. Не плануйце ніякіх рашучых крокаў.

**АВЕН**

Паляпшэнне вашага матэрыяльнага становішча ў панядзелак. Не давярайце нікому вашых інтымных адносін.

У сераду атрымаеце нейкую цікавую навіну. Не перанапружвайце сваю нервовую сістэму. Захоўвайце асцярожнасць у каханні.

Будзьце патрабавальнымі да сябе ў нядзелю.

## СЁННЯ — ДЗЕНЬ РАДЫЁ



# Без рэвалюцый пражыць можна...

*Цяпер, калі газеты выходзяць нерэгулярна, і падпісчыкі тыднямі не атрымліваюць свае выданні, радыё стала для многіх гараджан і насельнікаў практычна ўсёй беларускай "глыбінкі" адзіным сродкам сувязі са светам. Як жывецца сёння нашым калегам — радыёжурналістам? Госць "ЧЗ" — галоўны рэдактар студыі інфармацыйных праграм рэспубліканскага радыёвяшчання Леанід АНОП.*

**— Рэдакцыя, якую ўзначальваеце вы, Леанід Пятровіч, заўсёды пастаўляе слухачам самую гарачую і свежую інфармацыю. Ці не маглі б вы падзяліцца сёння з нашымі чытачамі якой-небудзь навіной, што яшчэ не гучала ў эфіры?**

— Тое, што мы заўсёды радуем слухачоў цікавай інфармацыяй, — добры камплімент у дзень прафесійнага свята... У жыцці, на жаль, праблема аператыўнага і аб'ектыўнага інфармавання людзей да канца не вырашана. Прычын таму шмат — ад тэхнічных да творчых — і не аб іх сёння размова. Скажу толькі, што практычна ўсё, што залежыць ад нашага калектыву ў пашырэнні інфармацыйнай прасторы, зроблена. Інфармацыйныя праграмы на Беларускім радыё гучаць па тры і больш гадзін у суткі. Для нашай невялікай дзяржавы, я лічу, гэта дастаткова, каб расказаць пра ўсё, чым жыве і Беларусь, і блізкае замежжа, і свет. Тут будзе якраз дарэчы, праўда, нялёгка, адказаць на заключную частку вашага пытання аб навіне, якая яшчэ не гучала. Інфармацыя як жанр журналістыкі адрозніваецца ад іншых яшчэ і ў тым сэнсе, што яе ў запас не пакінеш — праз гадзіну-другую навіна, якая не прагучала па радыё, перастане быць навіной. Або іншыя раскажуць пра яе, або яна маральна састарэе. Але ж... Не ўсе, напэўна, яшчэ ведаюць, што граф Прушынскі не будзе першым Прэзідэнтам Рэспублікі; што ў маі чакаецца зніжэнне цэн на некаторыя тавары. Аднак усё гэта блякне перад тым, што вядучаму праграмы "Радыёфакт" Аляксандру Цітаўцу адразу пасля свята споўніцца сорак гадоў. Мы ўсе яшчэ маладыя, і наш час не прайшоў...

**— Дарэчы, пра «Радыёфакт». Безумоўна, гэта адна з самых папулярных сёння ў рэспубліцы радыёперадач. Ці лёгкі хлеб у журналістаў, што працуюць на ёй?**

— Лёгкага хлеба ў жыцці ўвогуле не бывае. А ў час палітычнай валтузні, апантанасці да ўлады мала да чаго здатных палітыкаў і рэвалюцыйных заяў кожнай партыі і руху, усім франтам разам і ўсім іх лідэрам паасобку хочацца мець у сябрах такі магутны і аўтарытэтны, не запэцканы супрацоўніцтвам ні з белымі, ні з чырвонымі рупар як "Радыёфакт". Толькі Бог і маё збалелае сэрца ведаюць, колькі сілы і моцы патрэбна на тое, каб адбіцца ад націску, быць нейтральнымі адносна палітычных плыняў усіх масцей. Я ўжо не раз заяўляў і хачу яшчэ раз падкрэсліць, што палітыкай цікаўлюся роўна столькі, колькі гэта трэба для работы. Многія рэчы ў ёй успрымаю, як цырк. І тут нічога не зробіш: пакуль будуць цыркачы, будзе і цырк...

**— Трэба думаць, што напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў эфірны час будзе надзвычай важнай рэччу для кандыдатаў на пост кіраўніка нашай дзяржавы. Зразумела, папулярнасць інфармацыйных праграм робіць іх вельмі жаданай трыбунай для прамоўцаў. Ці магчыма забяспечыць аднолькавыя ўмовы для выступленняў усім тым, хто прэтэндуе на пасаду першага прэзідэнта рэспублікі? Увогуле, ці прытрымліваецца галоўная рэдакцыя інфармацыі якіхсьці палітычных сімпатый і антыпатый у гэтым сэнсе?**

— Адразу аб пазіцыі сваёй асабіста і калектыву службы інфармацыі — у асвятленні падрыхтоўкі да выбараў і саміх выбараў прэзідэнта прынцып роўнасці і аб'ектыўнасці будзе асноўным. Зрабіць гэта будзе не надта ўжо і складана — з 30 сакавіка 1994 года дзейнічае Закон Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", а нядаўна прынята канкрэтная і, мне здаецца, разумная пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта аб парадку карыстання кандыдатамі ў прэзідэнты сродкамі масавай інфармацыі. Там усё раскладзена, як кажуць, па паліцах.

Крыху насцярожвае толькі тое, што для нашай не такой ужо і вялікай нацыі занадта шмат (па аднаму на пяцьсот тысяч) палітыкаў, здольных кіраваць дзяржавай. Ці няма тут чаго ад ленінскай "кухаркі"? Але дэмакратыя ёсць дэмакратыя, суайчыннікі няхай самі робяць выбар. І калі людзі яшчэ здольны адрозніць танны папулізм ад складаных рэалій жыцця, то яны выберуць дастойнага прэзідэнта, калі не — атрымаюць кіраўніка, за якога будзе пасля і смешна, і сорамна, і да слёз крыўдна.

**— Як вы ставіцеся да змянення статуса Беларускай нацыянальнай тэлерадыёкампаніі? Ці адбілася змена шыльды на рабоце вашай рэдакцыі?**

— Пытанне крышачку недакладнае. Справа ў тым, што статус наш не змянілі, а вярнулі тое разумнае і правільнае, што было раней, — мы зноў сталі Дзяржаўным камітэтам па тэлебачанню і радыёвяшчанню. Рэвалюцыі, нават у назвах, не самы лепшы метад палепшыць работу. Без рэвалюцый пражыць можна, яны ніколі і нічога не стваралі, акрамя крыві і канфліктаў.

— Дзякуй вам, Леанід Пятровіч, за гутарку. І прыміце разам са сваёй радыёкамандай віншаванні з прафесіянальным святам ад калектыву "чырваназменаўцаў".

**Гутарыла Вольга ШАЎКО.**



**НА ЗДЫМКУ: галоўны рэдактар студыі інфармацыйных праграм рэспубліканскага радыёвяшчання Леанід АНОП (у цэнтры) і вядучыя праграмы "Радыёфакт" Алена ШВАЙКО і Аляксандр ЦІТАВЕЦ.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# Каралеўскі нумар — 13

□ Лілія АСТРАВЕЦКАЯ

*Такога наплыву імпартных аўтамабіляў, экстравагантных жанчын і багатых мужчын Гродзенскі драмтэатр яшчэ не бачыў. Ды і наогул наўрад ці дзе ў горадзе назіралася такое мноства мудрагелістых прычосак, глыбокіх дэкальтэ і спакуслівых міні. Па-вясноваму зацікаўленыя мужчыны разгублена блукалі позіркамі, не ведаючы, дзе іх спыніць: у зале, дзе сабраўся амаль увесь мясцовы бамонд, ці на сцэне, дзе аспрэчвалі лаўры каралевы шаснаццаць гродзенскіх прыгажунь.*

Конкурс "Каралева прыгажосці", які традыцыйна праводзіць маладзёжная камерцыйная фірма "Младзі", стаў неад'емнай падзеяй кожнай гродзенскай вясны. Для адных ён — першая прыступка ў кар'еры мадэлі, для другіх — магчымасць рэкламы, для трэціх — проста цікавая забава. Напэўна, менавіта дзякуючы гэтай агульнай зацікаўленасці конкурс, які пачынаўся як аматарскае маладзёжнае мерапрыемства, ператварыўся ў шыкоўнае рэспектабельнае шоу.

У рабоце журы "Каралевы прыгажосці Гродна-94" прымалі ўдзел кіраўнік вядомага мінскага рэкламнага агенцтва Саша Варламаў, прадстаўнікі польскага цэнтра рэкламнай фатаграфіі "Класік студыё", італьянскага рэкламна-фатаграфічнага часопіса "Фота Чын". На рэкламных шчытах красаваліся назвы камерцыйных банкаў і фірм — спонсараў. У фае была разгорнута выстава тэхнікі фірмы "Мінольта" і вырабаў народных промыслаў.

Напэўна, у многім дзякуючы спонсарскім шчодрасцям і, безумоўна, арганізатарскаму таленту дырэктара "Младзі" Ігара Ляговіча шоу сапраўды атрымалася. Дызайн і светлавое афармленне сцэны, касцюмы ўдзельніц, узровень конкурсаў — усё сведчыла аб тым, што ў Гродна ёсць людзі, здольныя стварыць сапраўднае шоу.

Гледачы мелі магчымасць скласці шматбаковае ўяўленне аб прэтэндэнтках. Напачатку дзяўчаты паказалі "Баль нявест", выплыўшы на сцэну ў шыкоўных белых сукенках, так што прымяраць карону ў самы час было кожнай. Затым сцэна ператварылася ў экзатычны пляж, дзе цалкам натуральна глядзеліся мініяцюрныя чорныя купальнікі. Пасля дзяўчаты на хвіліну сталі танцоўшчыцамі і выканалі, кожная са сваім тэмпераментам, "Каралеўскі вальс". І, нарэшце, прыгажуні прадэманстравалі свой густ (з'явіўшыся ў самастойна выбраных уборах), пачуццё гумару і інтэлект (адказаўшы на пытанні вядучых).

Што ж уяўляюць сабой прэтэндэнткі на карону? Калі абагульніць убачанае і пачутае, вырысоўваецца такі партрэт "Міс Гродна-94" — вельмі маладая (большасці ўдзельніц — ад 16 да 19), вучыцца ў школе, вучылішчы ці ВНУ, цэніць імкненне да дасканаласці, узаемаразуменне і... легкадумнасць, любіць бацькоў і сяброў, а таксама "ўсё прыгожае і смачнае", паважае публіку і марыць "стаць зоркай".

На жаль, зоркамі становяцца не ўсе. Трыумф чакаў толькі адну каралеву, і ёю, па агульнай згодзе журы і гледачоў, стала 19-гадовая выпускніца Гродзенскага вучылішча мастацтваў Яўгенія Чарнышова, якая атрымала адначасова яшчэ два тытулы — "Міс Публікі" і "Міс "Сэвэкс" (прыз, прадастаўлены камерцыйнай фірмай "Сэвэкс"). Па іроніі лёсу і насуперак прыкметам, каралева выступала пад нумарам 13.

Першай і другой віцэ-міс сталі школьніца Надзея Лазоўская і студэнтка Наталля Струг. Былі і іншыя тытулы: "Міс "Тандэм", "Міс "Нектар", "Міс "Тэста", "Міс "Кона"... Карацей кажучы, прадстаўнікі ўсіх фірм-спонсараў пацешылі сябе і абралі кожная сваю каралеву, узнагародзіўшы яе ўзорамі ўласнай жа прадукцыі.

Галоўную ж каралеву, як і было абяцана, чакае Адрыятыка. І яшчэ адзін прыемны сюрпрыз. За дзень да свята нечакана з'явіўся спонсар-добраахвотнік, уладальнік турыстычнага агенцтва ў Сірыі, і запрасіў каралеву ў падарожжа па сваёй краіне.

Цяжка сказаць, як складзецца лёс маладых дзяўчат, што пажыналі каралеўскія лаўры на гродзенскай сцэне. Магчыма, яны стануць, як і марылі, зоркамі, а магчыма — настаўніцамі, фельчарамі, рэвізорамі — тымі, на каго вучацца. Але, дзе б ні апынуліся яны праз некалькі год — на вокладках часопісаў ці на кухні сярод дзяцей і каструль, — яны заўсёды будуць памятаць гэта імгненне, калі пад прыцэламі фотааб'ектываў, пад апладысменты публікі іх мілыя галоўкі ўпрыгожылі зіхатлівыя кароны. Зорны час перамогі...

# Крыжаслоў

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 5. Багіня шчасця, удачы ў рымскай рэлігіі. 7. Шаноўны грамадзянін горада Мінска, Герой Савецкага Саюза, былы камандзір танкавага ўзвода, які першым уступіў у вызвалены Мінск 3 ліпеня 1944 г. 9. Назва наступальнай аперацыі па вызваленню Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. 10. Аб'яднанне злучэнняў, часцей для выканання баявой задачы. 12. Нанясенне ўдару па варожаму самалёту вінтом або крылом. 14. Рускі пісьменнік, аўтар апавядання "Народ бессмяротны". 16. Кляймо жывёлін. 17. Кветкавая расліна. 18. Востраў крэпасці Кранштат. 19. Горад ЗША, порт на в.Эры. 21. Назва галуна, тасьмы. 22. Левы прыток р.Прут. 24. Індукцыйная шпуля ў выпрамляльніку току. 27. Тайная тэрарыстычная арганізацыя. 28. Дарослы самец марскіх коцікаў і вепра. 30. Бязладдзе. 31. Даўжнік прадпрыемства, арганізацыі, установы. 32. Руска-амерыканскі пісьменнік, аўтар рамана "Приглашение на казнь".

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Установа пры воінскай часці, лячэбны стацыянар. 2. Смутак па загінуўшых. 3. Плоскае цісненне на кніжных вокладках, якое робіцца без фарбы гарачым прэсам. 4. Орган аховы войск на маршы і пры размяшчэнні на месцы. 6. Збудаванне для аховы і абслугоўвання самалётаў. 7. Здзеклівы жарт. 8. Артапедычны апарат, выкарыстоўваемы пры траўмах пазваночніка. 11. Адзін з першых Герояў Савецкага Саюза — камандзір партызанскага атрада на Палессі. 13. Род войска, агнявая ўдарная сіла арміі. 14. Востраў Швецыі ў Балтыйскім моры. 15. Невялікі напільнік з дробнай насечкай. 20. Від лёгкай кавалерыі, якая з'явілася ў Венгрыі ў XV стагоддзі. 21. Кампазітар, аўтар песень "Кацюша", "У лесе прыфрантавым". 23. Спосаб вядзення бою вёсельнымі і паруснымі караблямі да XIX стагоддзя. 25. Раструб мегафона. 26. Пахучая смала, скарыстоўваемая для акурвання пры рэлігійных абрадах. 28. Род млекакормячых, паласкуны. 29. Луста хлеба.

**Склаў Мікола ТАРАСІК, Мінская вобл.**

## СПАДЧЫНА

# Разгуляўся Юр'еў конь...

□ Ніна БУРАКОЎСКАЯ

*Юр'я (23 красавіка ст.ст., 6 мая н.ст.) з'яўлялася найбольш папулярным пасля Вялікадня веснавым святам на Беларусі. Святы Юры лічыўся заступнікам сельскай гаспадаркі і апекуном свойскай жывёлы, ён "адмыкаў зямлю, пускаў расу". У гэты дзень сяляне раніцой абыходзілі свае жытнія палі з кавалкам велікоднага пірага, фарбаваным яйкам, хлебам, соллю, асвячонай вярбой. Прасілі Юрыя засцерагчы ніву ад граду, даць добры ўраджай, качаліся ў жыце па першай расе, якая, паводле народнага павер'я, прыносіла здароўе ўсяму жывому. На Юр'я адбываўся ўрачысты абрад першага выгану кароў на пашу, ён суправаджаўся рознымі магічнымі дзеяннямі і прыкметамі. Юр'еў дзень быў таксама святам пастухоў. Святкавалі пастухі надвячорак у полі. "Пяклі" на вогнішчы абрадавую страву — яечню, наладжвалі пачастунак, рабілі абыходнае шэсце вакол статка з магічнымі замовамі "ад гада бягучага і ад звера ліхога" і з тэатралізаванымі сцэнкамі. У ноч на Юр'я выводзілі ўпершыню коней на начлег (на поўначы Беларусі крыху пазней — на Міколу, 9 мая ст.ст.). У беларусаў існавала павер'е, што да 23 красавіка нельга выводзіць коней у поле на начлег, таму што святы Юры з'яўляецца гаспадаром дзікіх звяроў і назіраў, каб ваўкі не кранaлі тую скаціну, якая ім не назначана. Пры гэтым гаспадары прытрымліваліся пэўнага рытуалу — абдорвалі начлежнікаў харчамі, якімі яны потым усе разам частаваліся. Абрадавыя дзеянні былі насычаны атмасферай урачыстасці, радасным святочным настроем, маляўнічымі цырыманіяламі.*

Асабліва жыццярадасна спраўляла Юраўскае свята моладзь. Юнакі і дзяўчаты арганізоўвалі рытуальныя шэсці па вёсках, спявалі юраўскія песні, наладжвалі гульні і забавы. Моладзь радавалася вясне, жыццю, чакала кахання і шчасця. У Гродзенскай губерні дзяўчаты і хлопцы выходзілі сустракаць Юр'я напярэдадні, вечарам 22 красавіка. Яны збіраліся за вёскай, на скрыжаванні дарог і спявалі:

Да мы Юр'я пачынаем,
Пана Бога звялічаем:
— Да падай жа, Божа, ключ
Адамкнуць зямліцу, выпусціць расіцу
Да на жыта, на пшаніцу, на ўсякую пашніцу.

Натоўп накіроўваўся ў вёску і тройчы з песнямі абыходзіў яе з канца ў канец. Затым хор абыходзіў двары маладзіц, якія выйшлі замуж у мінулым годзе, і звяртаўся да іх:

Маладая малодачка,
Выйдзі, выйдзі на вулачку,
Вынясі нам падарачак,
Падарачак—паясочак!

Маладуха кідала пояс, спевакі разрывалі яго на кавалкі і захоўвалі ў якасці лекавага сродку ад сурокаў і дурнога вока. У святочны вечар 23 красавіка моладзь праводзіла Юр'я.

За вёскай наладжвалі гульні. Дзяўчаты дзяліліся на дзве групы і хорам пераклікаліся:

— Юр'я! Вечар добры, Юр'я!
— Юр'я! Падай ключы, Юр'я!
— Юр'я! Нашто ключы? Юр'я!
— Юр'я! Зямлю адмыкаць, Юр'я!
— Юр'я! Нашто адмыкаць? Юр'я!
— Юр'я! Расу пушчаць, Юр'я!
— Юр'я! Нашто раса? Юр'я!
— Юр'я! Для каровак, Юр'я!

У Кобрынскім павеце моладзь "спраўляла Юрай" наступным чынам. Рыхтавацца пачыналі загадзя, за тыдзень—два да свята. Дзяўчаты абыходзілі вёскі і збіралі прысмакі "на каравай": яйкі, масла, сыр, каўбасы, пшанічную муку, часам ім давалі і грошы. Для святкавання звычайна выбіралі хату, у якой ёсць дзяўчына-нявеста. Напярэдадні свята дзяўчаты наводзілі ў хаце парадак: мылі сталы і лавы, падмяталі двор, смажылі, варылі святочныя стравы, пяклі каравай. Хлопцы куплялі гарэлку, піва і мёд. Каравай упрыгожвалі зяленівам (барвінкам), стужкамі і клалі на вечка ад дзяжы. У дзень свята ў выбранай хаце збіралася моладзь, прыходзілі паглядзець і аднавяскоўцы-дарослыя, старыя і дзеці. Увесь натоўп выходзіў на вуліцу з песнямі, музыкай і скокамі і накіроўваўся ў поле. Наперадзе ішоў хлопец і нёс на галаве ў вечку каравай. На ніве ўсе станавіліся на калені і маліліся. Затым рвалі жытнёвыя сцяблiны і кідалі на каравай, каб быў добры ўраджай у гэтым годзе. Тым жа парадкам працэсія вярталася назад у вёску, і адбываўся пачастунак. Уся ноч праходзіла ў песнях, музыцы і танцах.

Наогул, абход азімага поля з караваем на досвітку па юраўскай расе бытаваў у розных мясцінах Беларусі.

У Навагрудскім павеце дзяўчаты таксама рыхтавалі каравай і ў суправаджэнні хлопцаў урачыста неслі яго над галавой па вёсцы. Заходзілі з віншаваннямі да ганаровых гаспадароў, каб, паводле звычая, удзельніцам абраду болей не давялося хадзіць з караваем на Юр'я, а пашчасцілася да наступнага года выйсці замуж. Хлопцы выкуплялі каравай. Пасля адбывалася агульная выпіўка і закуска.

Юраўскія шэсці, карагоды, забавы адбываліся ўсюды з мясцовым каларытам і лакальнымі асаблівасцямі. У гульнях і песнях моладзі заўсёды прысутнічалі жартоўныя, любоўныя і шлюбныя матывы. На поўначы Беларусі, у прыватнасці, дзяўчаты вадзілі карагод у полі, каля жыта, спяваючы святочную песню ў форме дыялога:

— Юра барадаты, стары, нежанаты,
Юра, ажаніся!
— Матка, дзевак нету,
Толькі адна ружа і тая ў агародзе,
Садам абсаджана, тынам абтынена,
Жытам абсеяна.
Я сад парублю, я й тын паламлю,
Жыта на хлеб сажну, ружу к сабе вазьму.

"Ружа" стаяла ў сярэдзіне круга, "Юра" — звонку. Пры словах "Я сад парублю" хлопец кідаўся на круг, каб ухапіць "Ружу", дзяўчаты не пускалі яго. Калі "Ружу" ўдавалася схапіць, гульба пачыналася з новымі салістамі.

Даволі распаўсюджаны былі варыянты гульнявой песні "Разгуляўся Юр'еў конь", якая выконвалася ў выглядзе спаборніцтва паміж дзяўчатамі і хлопцамі.

Разгуляўся Юр'еў конь, разбіў камень капытом.
Як у камені зерне ёсць, так у хлопцаў праўда ёсць!
Разгуляўся Юр'еў конь, разбіў арэх капытом.
У том арэху ядро ёсць, у дзяўчынак праўда ёсць!
А вы, хлопчыкі, бяжыце, вашы конікі ў жыце,
А ты, мілы, не бяжы, бо твой конік на мяжы.
Загарэўся сыры бор,
Ніваю Юр'я, ніваю!
Пайшлі хлопцы гасіці, рэшатам ваду насіці.
А ў рэшаце вады нет, а ў хлопцаў праўды нет.
Пайшлі дзеўкі гасіці, вянкамі ваду насіці.
А ў вяночках вада ёсць, а ў дзевачак праўда ёсць.

Аграрна-каляндарнае свята Юр'я фактычна азначала сапраўдны прыход вясны, цяпла, пачатак сяўбы на палях і агародах, адкрыццё пастухоўскага сезона, абуджэнне прыроды. Таму так радасна яно спраўлялася ўсім народам Беларусі.

■

